# ДЕНЬ

Штотыднёвік, выдаецца з красавіка 2001 года, выходзіць штосчацвер, выдавец і заснавальнік ТДА «Дзеньпрэс»

4 – 10 сакавіка 2004 года | № 6 (178) | Кошт 500 рублёў


**ПАДПІСКА**

**Адзіная магчымасць аператыўна атрымліваць ДЕНЬ**

*стар. 5*

# Вяртанне зампалітаў

**На мінулым тыдні прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам быў выдадзены Указ №111 Аб удасканаленні кадравага забеспячэння ідэалагічнай працы ў Рэспубліцы Беларусь. Згодна з гэтым дакументам, кіраўнікі дзяржаўных і іншых арганізацый нясуць персанальную адказнасць за стан ідэалагічнай работы ў калектывах. Фактычна указам замацавана, так званая, ідэалагічная вертыкаль у склад якой, паводле папярэдніх падлікаў, у Гарадзенскай вобласці войдзе каля 2000 чалавек. Для звыклага грамадзяніна вяртанне штатных агітатараў, азначае аднаўленне падзабытага абавязку наведваць палітінфармацыі.**

## Ідэалогія замест інфармацыі

- *Амаль сем гадоў таму мы пачалі адраджаць сістэму ідэйна-выхаваўчай працы з насельніцтвам. Тады ў аблвыканкамах былі створаны ўпраўленні, а ў горрайвыканкамах аддзелы інфармацыі... Але іх праца звялася да нейтральна-сухога інфармавання,* - заявіў **Аляксандр Лукашенка** яшчэ мінулай вясной падчас семінара кіруючых работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых органаў улады па пытаннях ідэалагічнай працы. І вось праз год сваім указам прэзідэнт змяніў назву ўзгаданых устаноў. Цяпер гэта ўпраўленні і адзелы ідэалагічнай работы. У адпаведнасці з Указам № 111 у Гарадзенскім аблвыканкаме ўпраўленне ідэалагічнай работы будзе складацца з 15 штатных адзінак, а ў гарвыканкаме – з 6.

- *Назва нашага аддзела пакуль, што не зменена. Усё ёсць у загадзе! Чытайце і ніякіх каментароў я вам даваць не буду,* - заявіў карэспандэнту ДНЯ начальнік аддзела інфармацыі Гарадзенскага гарвыканкама **Сяргей Дубавец.**

***Працяг на стар.3***

Фота ByMedia.net

*Асноўная задача "ідэалагічнага спецназа": "арганізацыя метадалагічнай і арганізацыйнай падтрымкі ідэалагічнаму актыву ў прапагандзе асноўных накірункаў дзяржаўнай палітыкі"*

## Надвор'е Дня

**4 сакавіка** па Гродне пахмурна, удзень -7, уначы -5, ападкі;

**5 сакавіка:** вобл., удзень-6, уначы -11, без ападкаў;

**6 сакавіка:** вобл., удзень -8, уначы -6, без ападкаў;

**7 сакавіка:** вобл., удзень -3, уначы -13, без ападкаў;

**8 сакавіка:** вобл., удзень 0, уначы -2, без ападкаў;

**9 сакавіка:** вобл., удзень 0, уначы -3, без ападкаў;

**10 сакавіка:** вобл., удзень -1, уначы -3, без ападкаў.

## Віншуем Сябра!



Фота Іаанны КАВАЛЬСКАЙ

*Юрэк Юрэцкі*

**Наш сябра і калега - выдавец і журналіст газеты TYGODNIK PODHALANSKI з польскага Закапанэ Ежы Юзэф (а для сяброў і чытачоў – проста Юрэк) Юрэцкі атрымаў на мінулым тыдні прэстыжную журналісцкую прэмію імя легендарнага рэдактара газеты RZECZPOSPOLITA Дарыюша Фікуса. За сем гадоў існавання прэміі Юрэк - першы рэгіянальны журналіст, якога адзначыла журы, у склад якога ўваходзяць найбольш аўтарытэтныя асобы польскіх мас-медыя.**

- Ужо тое, што Варшава заўважыла правінцыю - факт несамавіты, - сказаў, з уласцівым яму пачуццём гумару, на ўрачыстай цэрэмоніі журналіст. Аднак мы ўпэўненыя, што гэтыя словы прадыктаваныя незвычайнай сціпласцю нашага сябра. Справа ў тым, што дзякуючы Юрэку ды ягоным калегам, TYGODNIK PODHALANSKI даўно ўжо стаўся з'явай не толькі агульнапольскай (самая вялікая рэгіянальная газета Польшчы), цэнтральнаеўрапейскай (сваім досведам Юрэк дзеліцца, між іншым, з беларускімі журналістамі, калі наведвае нашаю краіну), але і трансатлантычнай (пяць тысяч паасобнікаў кожнага нумара TP прадаецца ў Чыкага ды Таронта).

Але нават не гэтыя, без перабольшання выдатныя дасягненні, найбольш блізкія нашым гарадзенскім сэрцам. Многія з Вас, шаноўныя чытачы, павінны памятаць высокага вусатага мужчыну, які ўлетку 2002 года з'яўляўся на судовых паседжаннях падчас працэсу журналістаў ПАГОНІ, рабіў здымкі ды размаўляў з гарадзенцамі. Нямногія ведаюць затое, што рабіў ён гэта не толькі дзеля салідарнасці з беларускімі калегамі. Асноўнай ягонай мэтай было распавесці пра наступ на свабоду слова ў нашай краіне сваім чытачам – гуралям, якія жывуць на польскім Падхалю, у Чыкага ды Таронта. У пэўным сэнсе, дзякуючы менавіта такім людзям, як Юрэк, сёння мы з Вамі, шаноўныя чытачы, маем у Гродне незалежную ані ад улады, ані ад апазіцыі, ані ад нейкіх бізнес-колаў - газету ДЕНЬ.

Пра ўсё гэта мы напісалі Юрэку ў віншавальным лісце з нагоды атрымання ім прэстыжнай прэміі. У адказ наш сябар павіншаваў усіх беларусаў (значыцца – таксама і Вас, шаноўныя чытачы), для якіх свабода слова, правы чалавека ды дэмакратыя – не пусты гук. "Я не сумняюся, што такі час надыдзе, што споўняцца Вашыя мары. Вашая барацьба за гонар журналіста не пройдзе дарэмна, – напісаў, у прыватнасці, Юрэк Юрэцкі. І дадаў: - Я захапляюся Вамі і шаную Вас. Гэта Вам я прысвячаю атрыманую ўзнагароду".

**Калектыў ДНЯ**

## Апазіцыя «кансалідуецца»...

Яшчэ за савецкім часам на пытанне: "ці будзе вайна?", армянскае радыё адказала коратка і зразумела:

- Вайны не будзе, але будзе такая барацьба за мір, што камня на камяні не застанецца!

Гэты выраз добра ілюструе справу шырока прадэкляраванага аб'яднання палітычных апанентаў Лукашэнкі дзеля таго, каб, паводле іхных словаў, даць - падчас маючых адбыцца парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў- рашучы бой "апошняму дыктатару Еўропы". Пад салодкія спевы пра кансалідацыю, беларускія апазіцыянеры іншым разам дэманструюць сваю разбуральніцкую сутнасць не горш за штатных барацьбітоў за мір з "імперы зла". Быццам навыперадкі спяшаюцца гэтыя "шырока вядомыя ў вузкіх колах" палітыкі "ашчаслівіць Беларусь". Пару тыдняў таму пра свае намеры заняць высокую пасаду абвесціў прафсаюзны дзеяч Аляксандр Ярашук. Не хавае сваіх планаў заняць вышэйшую пасаду ў дзяржаве былы амбасадар у Японіі Пятро Краўчанка...

Вось і чарговы змагар з дыктатурай днямі абвесціў пра свой намер балатавацца на прэзідэнцкую пасаду, а значыць і пра свой уласны "крыжовы паход" супраць Лукашэнкі.

- Аляксандр Лукашэнка да наступных выбараў не дацягне, - безапеляцыйна заявіў былы дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Андрэй Клімаў на прэзентацыі сваіх прэзідэнцкіх амбіцыяў. - ... Можна лічыць, што ён - палітычны труп.

Засмучае, аднак, не самаўпэўненасць лідэра пяці чалавек. Трагічным выглядае гэтае бясконцае павелічэнне колькасці змагароў "за ўсё добрае, супраць усяго кепскага" метадам дзялення. Прычым дзялення па прынцыпу: кожны супраць усіх. На пытанне карэспандэнта БДГ пра тое, ці не пасварыўся на развітанне спадар Клімаў з кіраўніком Аб'яднанай Грамадзянскай партыі, у шэрагах якой ён быў да нядаўняга часу, самаабвешчаны кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, напрыклад, адказаў:

- Не, але крыўду затаіў.

А вось ужо каардынатар незарэгістраванага руху "Зубр" Цімафей Дранчук, які ўвайшоў у ініцыятыўную групу Андрэя Клімава, піша сваім нядаўнім калегам заяву аб прыпыненні сяброўства ў гэтай арганізацыі:

- ...Я застаюся беларускім патрыётам і ніяк не збіраюся прыпыняць барацьбу, якую мы **разам** пачалі ў 2001 годзе. **Разам** мы гэтую барацьбу і давядзем да перамогі. **Разам** мы пераможам!

Логіка, што называецца жалезная. Аказваецца, каб аб'яднацца – быць **РАЗАМ** – беларускім патрыётам трэба абавязкова раз'яднацца. Вы можаце не паверыць, але апазіцыянеры, аказваецца, не змагаюцца такім чынам адзін супраць другога. Гэта ў іх такая барацьба за адзінства і кансалідацыю.

Ці застанецца ў апазіцыйным руху хоць адзін камень на камяні ў выніку гэтай барацьбы, яшчэ невядома.

**Мікола Маркевіч**

# Ці нармальна, калі жонка зарабляе больш, чым муж?

**Большасць жанчын нашай рэспублікі, як і раней, нясуць двайны цяжар, калі сумяшчаюць выхаванне дзетак, прафесійную дзейнасць і працу па дамашняй гаспадарцы. Напрыклад, матулі значна больш удзяляюць увагу вучобе дзяцей. Яны часцей, чым таты, наведваюць школу: 72,3% - маці, 12,4% - тата; правяраюць хатнія заданні: 44,6% - маці, 9,4% - тата; караюць: 42% і 24,6% адпаведна. У дадзенай сітуацыі жанчыны не маюць свабоды выбару сваіх эканамічных паводзінаў і абмежаваныя нормамі і стандартамі, якія прыняты ў грамадстве. Тым не менш, згодна са статыстыкай, у 35% беларускіх сем'ях жанчына – у прыдачу – з'яўляецца яшчэ і карміцелькай. Прычым, гэтая лічба з кожным годам павялічваецца. Для шматлікіх сем'яў такая сітуацыя становіцца сур'ёзнай праблемай, выклікае непаразуменне і сваркі паміж мужам і жонкай. Роля жанчыны – лідэра ў матэрыяльным дабрабыце сям'і паслужыла прычынай распаду кожнага 20 шлюбу.**

### ЗА



■ ***Уладзімір Гарошчык,*** *студэнт апошняга курсу аграрнага універсітэту:*

-У наш час заработная плата не заўсёды адпавядае рэальным затратам працы. Існуе шмат прафесій, без якіх нельга абысціся і якія прыносяць вялікую грамадскую карысць. Гэта лекары, выкладчыкі, навукоўцы... Аплочваюцца дадзеныя прафесіі недастаткова, але адсутнасць у іх мужчын абярнулася б катастрофай для ўсяго грамадства.

Гэта значыць, калі мужчына не паразітуе і працуе па прызванню за мізерную ўзнагароду, тады і ён, і жонка, якая яго "трымае", вартыя толькі павагі.

### СУПРАЦЬ



■ ***Святлана Семянюк,*** *гісторык, выкладчык, выхавальніца ў медыцынскім каледжы:*

-Той, хто зарабляе больш, аўтаматычна становіцца старшым у сям'і. Такім чынам, у сям'і ўсталюецца матрыярхат. У нашым грамадстве, традыцыйна жонка схільна шукаць апору ў мужы. І страта такой апоры можа ў корані змяніць адносіны паміж мужам і жонкай: мужчына і жанчына пачынаюць граць неўласцівыя ім ролі, што ні да чаго добрага не прыводзіць. І нават, у выпадку, калі муж і жонка пагаджаюцца з такім станам рэчаў, усё роўна адбіваецца негатыўныя стаўленні родных і знаёмых. Бацькі, напрыклад, кажуць, што дачка паразіта корміць, сябры спагадліва ўсміхаюцца...




*Вынікі інтэрнэт-галасавання на http://pahonia.promedia.by*

Не так даўно па тэлебачанню прагучалі звесткі, што ў Беларусі выходзіць 1500 перыядычных выданняў. З іх 2/3 незалежныя, астатнія, адпаведна, спансіруюцца бюджэтнымі грашыма. Здавалася б, у чытачоў дастаткова вялікі выбар, каб і грошай шмат не патраціць і газету ці часопіс добры набыць. Практыка паказвае адваротнае. Прыкладна кожны трэці чытач вымушаны атрымліваць патрэбную для сябе інфармацыю з 2-3 крыніц.

**Ці можна сярод усёй разнастайнасці друкаванай прадукцыі знайсці адно перыядычнае выданне, якое цалкам задавальняла б вашым інфармацыйным патрэбам?**

Чакаем вашых меркаванняў у пятніцу 27 лютага з 18 да 19 гадзінаў па тэлефоне:

**72-29-96**




### 50 год таму

"Трудящиеся области глубоко чтут светлую память верного соратника, великого продолжателя бессмертного дела Ленина – Иосифа Виссарионовича Сталина... Более 70 агитаторов проводят беседы на тему "И. В. Сталин – великий продолжатель дела Ленина" в коллективах единых смен Гродненского железнодорожного узла... во всех цехах мебельной фабрики... В областной библиотеке на книжных полках – краткая биография И. В. Сталина, его труды по вопросам социалистического государства и советской демократии, по национальному вопросу и другие..."

**Гродзенская праўда, 5 сакавіка 1954 года**

### 10 год таму

"...Цяпер матыў адтэрміноўкі аказаўся зусім неардынарным: адзін з бакоў выступіў у судзе... на беларускай мове... А так як судовыя паседжанні ў нас па-ранейшаму праводзяцца на рускай мове, то тэрмінова спатрэбіўся перакладчык. Яго не знайшлося..."

**Гродзенская праўда, 3 сакавіка 1994 года**

### 5 год таму

"...Следчы пракуратуры Ленінскага раёна А. Танкевіч прад'явіў санкцыю пракурора ў сувязі з распачынаннем крымінальнай справы па абароне гонару і годнасці кіраўнікоў Рэспублікі Беларусь. Былі канфіскаваныя брашуры "У ПАГОНЮ" з карыкатурамі мастака Алеся Сурава, артыкул "Трагедыя Беларусі" С.Шарэцкага, пратакол пасяджэння па вылучэнні кандыдатаў у Цэнтрвыбаркам, інфармацыйны бюлетэнь "Трэці сектар".

**ПАГОНЯ, 4 сакавіка 1999 года**




# Не таму вучыліся...

Чаго мы толькі не рабілі самі з сабой, каб быць рускімі. Дакладней, каб выглядаць рускімі на 101%. Двесці дзесяць гадоў. Хто паволі, хто як - але няўхільна, з пакалення ў пакаленне. Перажылі ўсе войны, мецяжы, акупацыі, рэвалюцыі. Замянілі ўсё, што можна.

Найбольш стараліся цяперашнія, каму за 40, за 60 яшчэ ў XX стагоддзі. У сярэдзіне 50-х гадоў будучы генерал - міністр Казлоўскі ўмудрыўся здаць экзамен па матэматыцы ў вайсковую танкавую вучэльню ў Ташкенце. Але па-беларуску. І рускія яго разумелі. Праз 20 гадоў я трымаў экзамен у вышэйшую школу ў Менску і быў здзіўлены, калі адна дзяўчына спытала ў прафесара, ці може адказваць хімію па-беларуску. Бо такія ў яе ў школе былі падручнікі. Не ведаю, як прафесар, але я быў шчыра здзіўлены, што яшчэ ёсць нейкія беларускія школы з хіміяй і матэматыкай. Таму што ні ў маім Скідалі, ні таксама ў маім Гродна ніякіх беларускіх школаў не было. Мы адразу рушылі ў рускі. Бо мястэчка – гэта не вёска, Гродна ўвогуле вялікі горад...

Прайшло яшчэ 30 гадоў, вёска зрабілася горадам, а пад гароды і дачы скупіла тую палову Скідаля, якая перасялілася на могілкі. Гродна ад 100 тысяч вырас да тагачаснага Менска, а Менск вырас яшчэ чатырохкротна і дарос да двух мільёнаў чалавек. Пры гэтым у дзесяцімільённай Беларусі рускіх – не палова, як можна пачуць, а кожны беларус сам сябе чуе яшчэ большым рускім, чым рускі.

І тут высветлілася, што як у Крамлі не хацелі вялікага Савецкага Саюза, так цяпер не хочуць маленькага саюза Беларусі і Расіі. Нават не прызнаюць беларусаў за рускіх. А рускіх прызнаюць за нейкі другі гатунак, калі яны не масквічы і не пецярбужцы з Крамля і крамлёўскіх выселкаў.

Трыццаць гадоў таму рускі разумеў беларуса па-беларуску. А пяцьдзесят гадоў таму – разумеў беларуса па-беларуску ў Ташкенце ў танкавай вучэльні. А цяпер нас па-руску не разумеюць ні ў Маскве, ні ў Крамлі, і нават - калі самі да Менска прыедуць. І што зусім крыўдна – тым больш не разумеюць, чым лепш мы гаворым, бо мы гаворым па-руску, а рускія пра грошы. І гаворац як не з рускімі, а як з нейкімі староннімі, чужымі людзьмі. Ні пра хакей не гавораць, ні пра дажынкі, ні пра нашу бульбу для арміі і флота, ні нават пра флот ужо не гавораць! Пры гэтым у Крамлі і на крамлёўскіх выселках выдумалі нейкія сусветныя цэны. А цэны – проста несусветныя і проста нелюдскія, бо простыя людзі такіх цэнаў не разумеюць: труба – круглая, газ –з-пад зямлі - і колькі беларусы жывуць з рускімі, столькі газ каштаваў капейкі! Цяпер не хочуць рублёў, не хочуць жыць у саюзе і перасталі разумець па-руску, калі гавораць пра грошы. Няма таго што раней было. Дык пакуль мы вучыліся і навучыліся на рускіх, знайшліся такія рускія, каторыя навучыліся на масквічоў і пецярбужцаў. Пасля чаго самыя спраўныя масквічы і пецярбужцы ўтварылі вялікае царства крамлёўскае, і ніхто ў Расеі не можа сказаць, дзе яго межы. Самі крамлёўцы не памятаюць, дзе ў Расеі і за Расеяй крамлёўскія грошы і якія грошы цяпер крамлёўскія, якія рускія – а якія нават больш рускія, чым самі рускія.

### 125 Лічба дня

**125** чалавек сталі кліентамі гарадзенскага медвыцвярэзніка ў лютым. Сярод іх – 14 жанчынаў.

Афіцыйна, пасля амаль гадавога перапынку, медвыцвярэзнік аднавіў сваю працу са студзеня, аднак у сувязі з рамонтам прымаць кліентаў распачаў толькі ў лютым.

Штодзень медвыцвярознік можа размесціць да 15 чалавек. Начлег ва ўстанове абыходзіцца нецвярозым грамадзянам у 35 тысячаў рублёў.

## 100 год, Мікола Аляксандравіч!!!



■ 80-ую гадавіну з дня народзінаў святкуе Мікола Аляксандравіч Мельнікаў **(на фота)**, стваральнік дэмакратычнага руху ветэранаў, вялікі патрыёт Беларусі. ДЕНЬ далучаецца да віншаванняў, якія атрымлівае сёння Мікола Аляксандравіч і зычыць яму доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя і новых здзяйсненняў на карысць нашай любай Бацькаўшчыны.

# Вяртанне зампалітаў

Працяг. Пачатак на стар. 1

Больш гаварлівым аказаўся начальнік упраўлення інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама **Уладзімір Амелька:**

*- З першага красавіка назва будзе зменена – гэта прадугледжана указам прэзідэнта. Пайнамоцтвы нашы амаль што не зменяцца. Трошкі больш працы будзе. Трэба дадаткова каардынаваць дзейнасць іншых структураў... Штат упраўлення павялічыцца толькі на адну асобу.*

У дзяржаўных і іншых арганізацыях персанальную адказнасць за "стан ідэалагічнай работы ў калектывах работнікаў" нясе кіраўнік установы, непасрэдная арганізацыя ідэалагічнай работы ўскладваецца на аднаго з яго намеснікаў.

Незалежныя аглядальнікі заўляюць пра аднаўленне старых камуністычных традыцый ідэалагічнай апрацоўкі насельніцтва.


Фота ByMedia.net

У якасці ідэалогіі цяпер пануе дзікі сімбіёз хрысціянскага крыжа з сярпом і малатком

## Як было

У Савецкім Саюзе ідэалагічнай працай з насельніцтвам, акрамя партыйных органаў, займаліся: тэлебачэнне, радыё і газеты. Акрамя таго практыкаваўся выпуск брашураў і плакатаў адпаведнага накірунку.

Вельмі распаўсюджанай была арганізацыя лекцый і палітінфармацый па месцы працы.

*- Тады гэта тычылася, перадусім, камуністаў. Лектараў выпісвалі з "Белсовпроса". Рабочых збіралі, і яны чыталі ім лекцыі. Звычайна па чалавек 20-30, а так, каб, напрыклад, цэлы цэх сабралі на лекцыю, дык я такога нават і не памятаю... Відавочна, разлік рабіўся на тое, што яны потым будуць тлумачыць "палітыку партыі" іншым,* - гаворыць былы старшыня прафкаму Гарадзенскага заводу аўтаагрэгатаў **Анатоль Хацько.**

*- Раней пасады падобнай намесніку дырэктара па справах ідэалогіі не было. Быў сакратар партыйнай арганізацыі... Акрамя яго на прадпрыемстве было яшчэ дзве важныя асобы – дырэктар і старшыня прафкома. Такая "тройка"... Але найбольш сур'ёзным органам, быў парткантроль,* - гаворыць **Валеры Задаля,** які ў перыяд з 1987 да 1997 года быў намеснікам старшыні Гарадзенскага тэлерадыёаб'яднання. На яго думку, партканторль можна назваць "партыйнай пракуратурай".

*- Цяпер часам людзі наракаюць, што няма куды звярнуцца, таму што раней калі партыец сваволіў, пакрыўджаныя скардзіліся ў камітэты партыйнага кантролю. І тут з вінаватага "скуру спускалі",* - успамінае Валеры Задаля.

## Ідэалогію ў масы?

Нічога новага сённяшнія ўлады ў галіне прапаганды дзяржаўнай ідэалогіі не выдумалі. Формы і метады застаюцца тымі самымі. Тэлебачэнне, радыё, газеты, бюлетэні, плакаты, лекцыі... Менавіта лекцыям і палітінфармацыям кіраўніцтвам краіны надаецца вялікая ўвага. Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, у Гарадзенскай вобласці створана 2000 інфармацыйна-прапагандысцкіх групаў, у іх склад уваходзіць каля 10 000 чалавек, сярод якіх намеснікі старшыні Гарадзенскага аблвыканкама на чале з ветэранам ідэалагічнай работы Марыяй Біруковай, чыноўнікі абл- гар- і райвыканкамаў, журналісты дзяржаўных газетаў, афіцыёзныя дзеячы культуры. Асноўная задача "ідэалагічнага спецназа": "арганізацыя метадалагічнай і арганізацыйнай падтрымкі ідэалагічнаму актыву ў прапагандзе асноўных накірункаў дзяржаўнай палітыкі".

*- Калі раней ідэалагічныя лекцыі былі трагедыяй, дык сёння гэта будзе камедыя. Улады спрабуюць весці ідэалагічную працу з дапамогай старых кадраў. Той самы Амелька, ну які з яго ідэолаг? Ён успрымаецца як бюракрат. А ідэолаг павінен быць аскетам, умець распальваць і пераконваць народ. Гэта сёння вельмі складаная задача. Калі ў савецкія часы людзі хадзілі на лекцыі і нічога не ведалі пра рэчы, якія ім там распавядалі, дык сёння, калі ёсць Інтэрнет, калі людзі могуць выехаць за мяжу, пераканаць людзей, што ў нас усё ў парадку, будзе вельмі цяжка. Ды і калі плата за кватэру складае 100 тысяч, ці магчыма людзям сказаць, што мы добра жывем?* - разважае Валеры Задаля. На яго думку, адзіным моцным аргументам сённяшніх ідэолагаў з'яўляецца страх.

*- Людзі баяцца згубіць працу, таму і вымушаны будуць хадзіць на палітінфармацыі, але выніку такое насаджванне ідэалогіі не прынясе,* - перакананы Валеры Задаля.

## Не вер!

69-гадовая гарадзенка Марыя Сцяпанаўна нарадзілася яшчэ пры Польшчы, памятае нямецкую акупацыю, вызваленне, як плакалі, даведаўшыся пра смерць Сталіна, як садзілі кукурузу пры Хрушчове, як стаялі ў чэргах пры Брэжневе, як змагаліся з гарэлкай пры Гарбачове... Вяртанне адзінай дзяржаўнай ідэалогіі выклікае ў яе ўсмешку.

*- Ну цяпер начальнікаў яшчэ больш стане. Будуць зноў языкамі малоць. Ці лепш жыць ад гэтага стане? А можа за кватэру плаціць трэба будзе меней? Не! Дык навошта тады гэтая ідэалогія. Агітатары патрэбныя ўладзе тады, калі цяжка... Бо пераканаць людзей каб яны трывалі. Калі добра жывецца, агітацыя не патрэбна,* - лічыць Марыя Пятроўна. Не верыць яна і ў шчырасць штатных агітатараў.

*- Памятаю быў адзін такі, што за Саветаў шмат здароўя паклаў, каб у нашай вёсцы царкву закрыць, а цяпер калі ўжо можна, дык сам у яе ходзіць. Таму нельга верыць. Сёння ён адно кажа, на гары нешта зменіцца, – ён іншае казаць будзе,* - перакананая Марыя Пятроўна.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**



■ *Віктар Сазонаў, старшыня Гарадзенскай гарадской філіі Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамады:*

У нармальнай краіне ўвядзенне падобных ідэалагічных службаў непатрэбна. Таму што там ідэалогія грамадства супадае з ідэалогіяй улады. Але ў гэтым выпадку ідэалогія павінна базавацца на нацыянальных каштоўнасцях. У нас сітуацыя іншая. У нас улада фактычна спрабуе стварыць ідэалогію пад сябе. Гэта псеўдаідэалогія, якая мае абслугоўваць дзяржаўную бюракратыю... Тое, што ў ёй не будзе нацыянальнага падмурка, нацыянальных каштоўнасцяў мне абсалютна зразумела... Менавіта гэтая ўлада знішчыла нацыянальныя сімвалы, знішчае беларускую мову... Прагназаваць, колькі можа праіснаваць падобная псеўдаідэалогія я не бяруся. Ёсць краіны, дзе яна хутка рассыпаецца, ёсць краіны, дзе існуе дзесяцігоддзямі. Адно напэўна - яна не вечная. Колькі здолее праіснаваць псеўдаідэалогія, залежыць ад грамадства. Чым актыўней яно будзе супрацьўляцца, тым хучэй псеўдаідэалогія будзе знішчана.

## Рэтраспектыва

**14 мая 1995 года** – прайшоў рэспубліканскі рэферэндум, на якім былі зацверджаны "новыя" дзяржаўныя сімвалы.

**Май 1997** – стварэнне Беларускага Патрыятычнага Саюза Моладзі, асноўная задача якога: падтрымка палітыкі прэзідэнта ў моладзевым асяроддзі.

**Сакавік 2001** – вяртанне абавязковых палітінфармацый у школы.

**27 сакавіка 2003 года** - адбыўся рэспубліканскі семінар кіруючых работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых органаў улады, прысвечаны пытанням ўдасканалення ідэалагічнай працы. Аляксандр Лукашенка заявіў, што "ідэалогія для дзяржавы тое самае, што імунная сістэма для жывога арганізма".

**6 чэрвеня 2003 года** – У Акадэміі кіравання пра прэзідэнце створана кафедра ідэалогіі і палітычных навук.

**18 чэрвеня 2003 года** – падпісаны ўказ №254 "Аб дзейнасці інфармацыйна-прапагандовых групаў і аб удзеле кіраўнікоў рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў і іншых дзяржаўных арганізацыяў у ідэалягічнай працы". Згодна з ім, кожны трэці чацвер месяца прызнаны адзіным днём інфармавання насельніцтва. У гэты дзень на прадпрыемствах і арганізацыях павінны адбывацца лекцыі па зацверджанай тэматыцы.

**Жнівень 2003 года** – на афіцыйнай інтэрнет-старонцы прэзідэнта распачынаецца дыскусія аб дзяржаўнай ідэалогіі.

**24 лютага 2004 года** – прэзідэнт падпісаў Указ № 111.

## Апытанне дня

***Якая ідэалогія ў нашай дзяржавы сёння? З такім пытаннем звярнулася наша карэспандэнтка да жыхароў Гродна.***

**Вераніка Здановіч, навучэнка каледжа:**

- Мне ўвогуле незразумела гэтае паняцце. Я не ведаю, пра што вы пытаеце. Думаю, што ў Беларусі няма аніякай ідэалогіі. Я пра гэта ніколі не чула, хоць можа гэтая ідэалогія і патрэбная.

**Барыс Сямёнавіч, пенсіянер:**

- Цяжка адказаць што за ідэалогія ў нас зараз. Але яна мне не вельмі падабаецца. Гэта перш за ўсё тычыцца збліжэння з Расеяй. Яна нам газ адключае, а мы ёй і транзіт, і ваенныя базы бясплатныя падавай. Трэба, каб існавалі нармальныя рынкавыя адносіны паміж нашымі дзяржавамі, тады і паглядзім, хто каму будзе вінаваты. Падругое, наша дзяржава вельмі шмат "заигрывает с рабочим классом", як у савецкія часы, і не надае ўвагі інжынерам-канструктарам. А менавіта яны "робяць" грошы. Трэба больш укладваць грошай не ў ідэалогію і здаровы лад жыцця, а ў эканоміку, тады ў нас будзе ўсё ў парадку.

**Дыяна Аляшкевіч, вучаніца:**

- Я не зусім уяўляю, што гэта такое. У нас праводзяцца нейкія спартовыя мерапрыемствы "За здаровы лад жыцця", ладзяцца нейкія выхаваўчыя акцыі. Я не магу адказаць на пытанне пра ідэалогію сёння, бо я яе не бачу. Але лічу, што яна патрэбная: народ без ідэалогіі – гэта не народ.

**Ян Лялевіч, беспрацоўны:**

- Сёння ў нас ідэалогія Савецкай Беларусі. Яна нічым не адрозніваецца ад ідэалогіі 70-х гадоў. Гэта ўсё той самы, так званы "рынкавы камунізм", псеўдарускасць і насаджэнне ўсходнерускабеларускага тыпу ментальнасці. Спробы знішчыць нас з рускімі ўсходнебеларусамі.

**Аляксандр, студэнт універсітэта:**

- Ва універсітэтах зараз чытаюць курс па ідэалогіі, але што яна з сябе ўяўляе цяжка сказаць. Можа гэта піянерскія арганізацыі і лагеры, дзеці з горнамі і гальштукамі. Мне нагадвае гэта савецкую сістэму. Напэўна, ідэалогія пакуль толькі фармуецца. Таму і курс такі ўвялі, каб зразумелі, што гэта такое.

**Апытвала Юля КОЦКАЯ**

Дэмакратыя ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў. Ідэалогія палітычных партый, рэлігійных або іншых грамадскіх аб'яднанняў, сацыяльных груп не можа ўстанаўлівацца ў якасці абавязковай для грамадзян.

**Арт. 4 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь**

# Падаткавікі план перавыканалі

**Больш за 846 мільёнаў рублёў сабралі ў бюджэт падатковыя органы Гарадзенскай вобласці ў мінулым годзе. Такім чынам, план выкананы на 102,4 адсотка. Пра гэта заявіў начальнік Падаткавай інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Гарадзенскай вобласці Віталь Кірыёнак.**

Прадстаўнікі падатковых органаў у мінулым годзе правялі 8927 праверак, у выніку якіх было налічана 17 мільярдаў рублёў санкцый. 830 суб'ектаў гаспадарання абскарджвалі дзеянні падаткавікоў у гаспадарчых судах, але толькі ў 8 выпадках пакаранні былі адменены. Агульная запазычанасць па падатках у вобласці складае больш за 18 мільярдаў рублёў.

- 99,8 адсотка даўжнікоў складаюць прадпрыемствы дзяржаўнай формы ўласнасці, -гаворыць Віталь Кірыёнак.

Спіс даўжнікоў традыцыйна ўзначальваюць гарадзенскія прадпрыемствы "Радыёхваля", "Гарнітэкс" і Гарадзенскі лікёра-гарэлачны завод.

**Альгерд ТАЛКАНІЦА**

# Хто дзяўчыну вячэрае, той яе...

**Конкурс на лепшага прадпрымальніка г. Гродна вызначыў больш за два дзесяткі прадстаўнікоў малога і сярэдняга бізнесу, вартых атрымаць падзяку ад гарадзенскага гарвыканкама. У рэстаране гатэля "Турыст", дзе пераможцам уручылі ганаровыя дыпломы і памятныя жураўлікі, прадпрымальнікі атрымалі ўнікальную магчымасць пасядзець за аднымі столікамі з мясцовымі ўладамі і нават выпіць у кампаніі з мэрам горада.**

Вызначэнне лепшых адбывалася шляхам анкетавання. Гарадзенскія бізнес-структуры атрымалі ад гарвыканкама адмысловыя фармуляры, у якія неабходна было ўнескі звесткі пра сваю дзейнасць, прыбытак, атрыманы ў мінулым годзе, колькасць створаных працоўных месцаў, заробкі супрацоўнікаў, а таксама сумы, ахвяраваныя на дабрачыннасць. Хто і як аналізаваў атрыманую інфармацыю, пераможцы не ведаюць, іх запрасілі ўжо адразу на ўручэнне ўзнагародаў.

Сама ўрачыстасць адбывалася без лішняга шуму. Прынамсі, прэсу гарвыканкам не запрасіў. За суткі да мерапрыемства кіраўнік аддзела інфармацыі Сяргей Дубавец упарта рабіў выгляд, што не ведае, дзе будзе адбывацца ўручэнне ўзнагародаў. А кіраўніца ўпраўлення эканомікі гарвыканкама Зінаіда Сінельнік з істэрычнымі ноткамі ў голасе крычала ў трубку нашаму карэспандэнту, што яна ўвогуле з журналістамі не кантактуе. Можа быць такая таямнічасць звязана з нежаданнем афішаваць тое, што на фуршэце, прафінансаваным адным з намінантаў, супрацоўнікі гарвыканкаму елі-пілі разам з тымі, за чый кошт бясконца латаюцца дзіры ў мясцовым (а можа і не толькі?) бюджэце?

**Яна РАДЗІВОН**

# Маўчанне - знак нязгоды

**Больш за 250 прадпрымальнікаў першага сакавіка прыняло ўдзел у "маўклівым мітынгу пратэсту" ля будынка Гарадзенскага аблвыканкама. Такім чынам гарадзенскія прадпрымальнікі выказалі свой пратэст з нагоды ўвядзення новых правілаў гандлю на рынках і праекта ўнясення зменаў у дэкрэт №4 "Аб адзіным падатку...".**



Фота Андрэя АДЛЯНІЦКАГА

*Супрацоўнік Ленінскага РАУС папярэджвае прадпрымальнікаў, што акцыя пратэсту несанкцыянаваная*

Падчас акцыі не было ні лозунгаў, ні плакатаў. А 10 гадзіне прадпрымальнікі падышлі да будынка аблвыканкама.

- *Чаму маўчым? А каго тут трэба ў чым пераконваць. Усе свае, усе ўсё ведаюць,* - так патлумачыла форму акцыі адна з яе ўдзельніцаў. Аднак не ўсе прытрымліваліся такой думкі.

- *Ну і чаго мы такім шляхам дасягнем? Калі на рынку, то ўсе смелыя. А тут стаяць, маўчаць,* - абуралася прадпрымальніца.

Сярод прысутных збіраліся подпісы пад зваротам да прэзідэнта, парламента, урада і мясцовых органаў улады. Сярод патрабаванняў: адмена абавязковага ліцэнзавання рознічнага гандлю, змяніць сістэму страхавання, спрасціць працэдуру абавязковай гігіенічнай рэгістрацыі і сертыфікацыі тавараў...

Побач з аблвыканкамам знаходзілася ўзмоцненыя нарады міліцыі. Аднак затрыманняў не было.

Прастаяўшы больш за гадзіну, прадпрымальнікі разышліся. Ніхто з прадстаўнікоў гарадзенскай улады да прадпрымальнікаў так і не выйшаў.

Як высвятліў ДЕНЬ, арганізатар акцыі пратэсту - намеснік старшыні Рэспубліканскага аб'яднання прадпрымальнікаў "Перспектыва" - Дзмітрый Іваноўскі падчас акцыі знаходзіўся ў Кастрычніцкім РАУС. Яшчэ ў суботу, падчас распаўсюду ўлётак на рынку "Паўднёвы", ён быў затрыманы міліцыяй.

- *На мяне быў складзены адміністрацыйны пратакол за распаўсюд улётак. На панядзелак на 8 гадзінаў раніцы мяне выклікалі павесткай... Потым быў суд, дзе я атрымаў штраф... Акцыю ацэньваю станоўча. Людзі прыйшлі, адгукнуліся... Ім набалела. Цяпер будзем чакаць рэакцыі ўладаў,* - гаворыць **Дзмітрый Іваноўскі.**

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

# Галерэі «У майстра» патрэбная дапамога

**У Гродне сёння амаль немагчыма прафесійнаму мастаку прадаць карціну. Зрабіць канцэптуальную мастацкую выставу ў Гродне таксама стала "барствам", лічаць уладальнікі мясцовых галерэяў. Самі гарадзенцы практычна не купляюць дарагіх палотнаў, а замежнікам, каб набыць і вывезці карціну за мяжу, трэба атрымаць дазвол.**

Першая ў Беларусі прыватная галерэя "У майстра" ўжо была гатова спыніць сваю дзесяцігадовую гісторыю. Без ільготаў па аплаце арэнды, уладальнікі галерэі не ў стане ўтрымліваць памяшканне. Стомленая ад неразумення чыноўнікаў, выканаўчая дырэктарка галерэі Ірына Сільвановіч нават думала сысці з пасады. На гарадзенскім прэс-клубе, прысвечаным развіццю бізнеса ў мастацтве, які адбыўся яшчэ тры тыдні, таму. Ірына заявіла, што больш не жадае абмяркоўваць з уладамі праблемы галерэі.

- Мяне вельмі ўражвае пазіцыя людзей ад улады па арэндзе,- адзначыла Ірына Сільвановіч. - Што яны робяць – заходзяць у галерэю, глядзяць цану пад карцінай і сыходзяць. На гэтым заканчваюцца ўсе іхнія стасункі з галерэяй. А пасля павышаецца плата за арэнду. І яшчэ, мы плацім за тое, што знаходзімся ў цэнтры горада, а гэта плюс 30% да арэнды!

Па словах Ірыны Сільвановіч, разам з мастакамі і супрацоўніцамі галерэі "У майстра", яна разглядала магчымасць набыцця будынка галерэі ва ўласнасць. Улады вызначылі кошт 15-16 тысячаў даляраў. Аднак чыноўнікі па-свойму патрактавалі гэтую ініцыятыву.

- Мне яны сказалі:"Вось чым займалася ўвесь час галерэя - хавала прыбыткі і капіла грошы!" – распавяла дырэктарка галерэі. - А для нас гэта вялікая сума, калі ўлічыць, што ў памяшканні няма ані туалета, ані гарачай вады.

Напрыканцы мінулага году Гарадзенскае абласное аддзяленне Беларускага саюза мастакоў перадала на баланс горада выставачную залю, што па вуліцы Ажэшка. Прычына тая ж самая – адсутнасць грошай на ўтрыманне памяшкання.

Дырэктарка галерэі "У майстра" Ірына Сільвановіч перакана.ная, што гарадзенскія ўлады павінны зрабіць усё неабходнае, каб у горадзе развіваліся прыватныя галерэі, дзе маглі б выстаўляцца мастакі. Дзеля гэтага яна на мінулым тыдні наведала старшыню гарадзенскага гарадскога савета Барыса Казлякова і старшыню гарвыканкама Аляксандра Антоненку. Афіцыйныя асобы паабяцалі паспрыяць вырашэнню праблемы з паніжэннем каафіцыэнту на арэндную плату. Але калі той каафіцыент панізіцца – пакуль невядома.

**Іван ПАЎЛЁНАК**

*Спорт*

# Чэмпіён застанецца прапісаны ў Гродне

**"Гродна-93" працягвае заставацца бясспрэчным флагманам беларускага мужскога баскетболу. Першую паразу, пачынаючы з вясны 2002 года, нашыя баскетбалісты пацярпелі толькі сёлета 30 студзеня.**

Крыўдзіцелем стаў БК "Менск"-БНТУ. Гэта адзіны на сёння клуб, які можа ствараць бачнасць канкурэнцыі з лідэрам нацыянальнага першынства. Але ўжо наступнага дня гарадзенцы адпомсцілі менчукам: 114-69. Апошнія туры лішні раз пераканалі нас у тым, што чэмпіён гэтага сезона застанецца прапісаны ў Гродне. Нашыя землякі перамаглі менчукоў двойчы: 94-59 і 100-79.

У фінальным раўндзе беларускага чэмпіяната, які распачнецца паслязаўтра, першым супернікам "Гродна-93" стане РУОР, які па выніках рэгулярнага спаборніцтва апынуўся на апошнім месцы. Пуцёўка ў наступны этап будзе разыграна ў серыі да дзвюх перамогаў.

# Толькі б настрой не падкачаў!

**У хакейным першынстве краіны пачынаецца самы напружаны этап спаборніцтваў - плэй-оф. З якімі шансамі да гульняў на выбыванне падыйшла гарадзенская каманда?**

Сённяшні "Нёман" вызначаецца асабліваю, якую неадночы падкрэслівалі трэнеры Анатоль Варывончык і Анатоль Чурабаеў – гэта праблема настрою на гульню. Нашыя хакеісты могуць саступіць "Юніору", які, дарэчы, акрамя нас ні ў каго не выйграваў у асноўны час гульні, але могуць даць і сапраўдны бой лідэрам.

Калі "Нёману" не хопіць настрою, каманду можа павесці за сабой капітан Сяргей Галавіноў. Ужо не аднойчы ён выратоўваў сваіх партнераў у складаныя моманты сустрэч. Увогуле, тройка Галавіноў - Паліцынскі- Чух праводзіць гэты сезон вельмі добра, хаця і не можа вылячыць "Нёман" ад старой хваробы - няўдалай гульні ў большасці.

Вялікія надзеі трэнеры ўскладаюць на дасведчаных галкіпераў Бруля і Фатікава, якія правялі не адну сустрэчу за нацыянальныя зборныя адпаведна Украіны і Беларусі. Зрэшты, ужо першая стадыя плэй-оф адкажа на шматлікія пытанні. Наш супернік у чвэрцьфінале - менскае "Дынама", якое "Нёман" у перадапошнім туры змог перайграць з лікам: 5-1.

**Ілля ГАПАНОВІЧ**

# Саша Буйко: **«Не жадаю быць слабым полам!»**

**Гэтая знешне сціплая і спакойная дзяўчына абрала няпросты шлях у жыцці, бо вырашыла раз і назаўжды разбурыць традыцыйнае ўяўленне пра жанчыну, як асобу “слабага полу”. Яна не лічыць сябе ваяўнічай феміністкай, але адкрыта выступае супраць стэрэатыпаў ва ўзаемаадносінах мужчынаў і жанчын. Больш за тое, Саша сцвярджае, што жаночае свята - 8 сакавіка - з цягам часу апашлілася ды сталася чарговай нагодай, каб народ у гэты дзень афіцыйна “нажраўся да свінячага віскату”…**



***Саша Буйко не лічыць сябе ваяўнічай феміністкай…***

## Белая варона

*- Для мяне страшэнным дзікунствам з'яўляецца агульнапрынятая думка, што жанчына толькі тады набывае сацыяльны статус, калі выходзіць замуж,* - вызнае **Саша.** *– Як быццам штамп у пашпарце сведчыць пра яе нармальнасць. А калі няма да акрэсленага ўзросту таго запаветнага штампу, дык ты ўжо нібыта непаўнавартасная, асоба другога гатунку…*

Вось і Сашу, з яе “дзіўным і ненармальным” памкненнем змагацца за сацыяльную роўнасць сучасных жанчын, палічылі белай варонай.

*- Ну так, і ў сям'і, і былыя школьныя сябры мне стала нагадвалі, што трэба выйсці замуж, уладкавацца ў жыцці,* - працягвае распавядаць Саша Буйко. *– Але мяне адназначна не задавальняла жыццёвая схема: “школа-інстытут-замужжа-дзеці-пенсія-пахаванне”. Я лічу, што жанчына мае правы і можа самавызначыцца інакш ды рэалізаваць свае здольнасці напоўніцу.*

## Пераадоленне агрэхаў маладосці

Саша на ўласнай скуры спазнала сацыяльную несправядлівасць, калі пачала свой працоўны шлях:

*- Спачатку я працавала медрэгістратаркай у камісіі па інваліднасці, прыкладна за 18-20 даляраў у месяц. Такі там быў заробак яшчэ да дэфолту 1998 года. І вельмі хутка ўсвядоміла сваю прыгнечанасць і прыніжанасць. Нарадзілася пачуццё пратэсту, і я ахвяравала той дзяржаўнай працай з жалосным заробкам на карысць вучобы. Я адчула павеў свабоды, пачала падарожнічаць, сустракацца з цікавымі людзьмі, жыць напоўніцу.*

Каб неяк падкрэсліць сваю пратэстную сутнасць, Саша вырашыла спяваць у альтэрнатыўным рок-гурце “Contra la Contra”, удзельнічаць у адмысловых канцэртах, працаваць сакратаром анархісцкай суполкі “Разам”.

*- У некаторай ступені я адчула сябе сапраўды свабоднай. Магчыма, гэта і былі агрэхі маладосці, але засталіся незабыўныя ўражанні,* - успамінае Саша. *- Мне захацелася нечага іншага. Я перарасла суполку “Разам” і пакінула пасля чатырохгадовага спявання гурт “Contra la Contra”, бо адчула, што гэта проста тусоўка, дзе можна весела прававіць час. Мы не вельмі ясна ўяўлялі: як найбольш эфектыўна вырашаць пастаўленыя задачы. Нешта карыснае рабілі, нешта не атрымлівалася…*

Летась Саша скончыла гістарычны факультэт ГрДзУ, куды пайшла, як сцвярджае, выключна для самаадукацыі, павышэння свайго інтэлектуальнага ўзроўню, а не дзеля таго, каб недзе пасля ўладкавацца на працу. Адначасова захапілася кампутарным дызайнам і зараз працуе ў гэтай галіне ў адной з мясцовых паліграфічных фірм.

## М супраць Ж і наадварот

*- Здаецца, міжнародны жаночы дзень павінен стаць для жанчын (хоць раз у год!) нейкай адтулінай,* - гаворыць Саша. *– Але свята гэтае здэградавала і сталася толькі падставай, каб чарговы раз выявілася крывадушша ўладаў, саўковасць нашага грамадства, ну і, натуральна, няшчырасць многіх мужчын. Бо частка атрымліваецца, што напярэдадні свайго свята, кабеты зноўку будуць, як шалёныя, лётаць па крамах і шчыраваць на кухні ля пліты. А для іх мужыкоў 8 сакавіка – чарговая нагода набухацца да ўсрачкі. Я не абагульняю, але такая савецкая традыцыя ў мяне выклікае гідлівасць!*

Не апраўдвае Саша і многіх жанчынаў, якія абралі тактыку прыстасаванства і чакаюць аднаго: з'яўлення казачнага каралевіча на белым кані, які адным махам вырашыць усе іхныя, збольшага матэрыяльныя, праблемы і забяспечыць бясклопатную будучыню.

*- Мяне бянтэжаць паводзіны маладых кабет, калі яны сядзяць, абы толькі месца займаць, на дзяржаўнай працы за нейкіх 100-120 тысячаў, фарбуюць пазногці ці прыхарошваюцца перад люстрам, каб пры першай лепшай нагодзе “зачапіць і акруціць” багатага мужыка,* - працягвае Саша. *– Такія лялі часта забываюцца, што багатыя мужыкі ўжо маюць сем'і і не збіраюцца дзеля мімалётнага флірту ахвяраваць сваім становішчам. Намеры такіх ляляў заканчваюцца, як у прымаўцы, - “поматросіл і бросіл”…*

Саша лічыць нармалёвай рэччу, калі маладая замужняя кабета зарабляе больш за мужа. Паводле яе, у сям'і можна пра ўсё дамовіцца, усё вырашыць без міжасабовай напругі. І не колькасць зароблены грошай павінна вырашаць, хто галава ў сям'і.

*- Я ведаю, што многія мужчыны баяцца эмансіпацыі і вельмі балюча рэагуюць, калі жонкі больш за іх зарабляюць. Яны не могуць адчуваць сябе другараднымі асобамі, хочуць быць ва ўсім першымі, і, каб не адчуваць сябе паразу, часта кідаюць сям'ю. Але я перакананая, што ў сям'і не павінна быць ані галавы, ані першых ці другіх роляў, павінна панаваць раўнапраўе!* – упэўнена сцвярджае Саша Буйко.

## Адрыжкі капіталізму і перспектывы фемінізму

Нягледзячы на тое, што наша герміня цалкам падтрымлівае эмансіпацыю і фемінізм, для яе гэта не самамэта, не рэвалюцыйная барацьба з супрацьлеглым “моцным полам”, а праца над сабой, унутраны рост самасвядомасці, штуршок да заняцця актыўнай грамадзянскай пазіцыі.

*- Трэба проста быць самім сабой і паводзіць сябе годна, а не лізаць задніцу мацнейшым і адначасова крыўдзіць слабейшых,* - заяўляе Саша Буйко. *– Я выступаю супраць сацыяльнага прыстасаванства і чыста спажывецкіх адносінаў да жыцця. Шкада, канешне, што шмат сіл і часу людзі ў нашай краіне, у тым ліку і жанчыны, трацяць на зараблянне грошай, каб толькі выжыць. Таму я не асуджаю жанчын, якія займаюцца прастытуцыяй. Яны проста не вераць у свае духоўныя сілы, іх падштурхоўвае да гэтага ўсё тая ж сацыяльная няроўнасць у грамадстве. Хаця ёсць і такія, што гандлююць целам не з-за грошай, а з чыстага задавальнення…*

Саша не верыць у прадэклараваную яшчэ падчас рэвалюцыі 1917-га сацыяльную, расавую і палавую роўнасць. Інакш, на яе думку, не ўзнікала б цяпер патрэба ў шырокім абмеркаванні праблем “гандлю жанчынамі”, арганізацыі семінараў па гендэрным узаемаадносінам ці паўстанні “школаў жаночага лідэрства”. Проста вузкае кола людзей навучылася на гэтых праблемах зарабляць з дапамогай замежных грантаў.

*- Не веру я таксама ў вырашэнне жаночага пытання палітычным шляхам,* - прызнае Саша. *– Ну, што з таго, калі нейкая кабеціна прарвецца ў дэпутаты ці атрымае выгадную кіраўнічую пасаду? Паляманту спярша, каб заявіць пра сябе, вырашыць свае побытавыя праблемы, і падумаўшы, што яна дапамагла іншым, раствaрыцца ў часе і прасторы…*

Сашу абурае, што ў нашым грамадстве вельмі хутка засвойваецца самае горшае, што пераймаецца з Захаду – адныя “адрыжкі капіталізму”, якія толькі падкрэсліваюць тутэйшыя сацыяльныя балячкі. І гэта ў той час, калі ў цывілізаваных краінах праблема роўнасці паміж мужчынамі і жанчынамі вырашалася на працягу дзесяцігоддзяў і цяпер не стаіць так востра, як у Беларусі.

*- Зараз, як ні прыкра, большыня праблемаў вырашаецца з дапамогай грошай. Нават ва ўзаемаадносінах паміж мужчынамі і жанчынамі. “Дамастроеўшчына” ды іншыя стэрэатыпы пра ролю жанчыны некалі застануцца ў мінулым, а барацьба за сапраўдную роўнасць нас чакае яшчэ наперадзе! Я гэта адчуваю, як жанчына. А ўвесь мой фемінізм заключаецца ў тым, што я сама гаспадыня свайго лёсу. Проста трэба дзейнічаць і ўладкоўваць жыццё так, каб не адчуваць сябе другараднай асобай і “слабым полам”!* – аптымістычна дэкларуе Саша Буйко.

**Юры ГУМЯНЮК**



***Каб падкрэсліць сваю пратэстную сутнасць, Саша спявала ў «Contra la Contra»***

## Нарабілася

**Кухонным** нажом падчас сваркі зарэзала свайго экс-супруга жыхарка дома па вуліцы Дзекабрыстаў у Гродне. Ад атрыманай раны 35-гадовы мужчына памёр у шпіталі хуткай дапамогі ў першы веснавы дзень.

■

**Жыхар** вёскі Мядвінавічы Дзятлаўскага раёну згарэў у агні ў мінулы панядзелак. Прычынай узгарання стала паленне мужчыны ў ложку. У гэты дзень ён атрымаў заробак і з гэтай нагоды напіўся.

■

**Алкаголь** прывёў да трагедыі і сямейную пару з вёскі Грынкі-1, што ў Свіслацкім раёне. Муж з жонкай загінулі ў агні пасля сумеснай п'янкі. Раней сям'я ўжо неадноўчы сплочвала штрафы за невыкананне правілаў пажарнай бяспекі.



Фота ByMedia.net

*На пасту*

# Страціць ці знойдзе старшына Сабук?

**Піў ці не піў супрацоўнік Лідскага аб'яднання "Ахова" пры Міністэрстве ўнутраных справаў Уладзімір Сабук? Такое пытанне сёння вырашаецца ў Ленінскім судзе Гродна. Ад адказу залежыць лёс самога Сабука, лекара, што яго абследаваў і супрацоўнікаў ДАІ, якія склалі пратакол. "Справа складаная, нехта можа штосьці згубіць," - заявіў ужо на першым паседжанні суддзя Мікалай Сяргейка.**

20 снежня 2001 года Уладзімір Сабук ехаў на сваёй машыне "Масквіч". Нечакана яго затрымалі супрацоўнікі Гарадзенскага ДАІ. Далей мы маем дачыненне ўжо толькі з версіямі.

*- Я маю вялікі досвед, таму магу "на вока" вызначыць: п'яны чалавек ці цвярозы. Сабук быў п'яны. У яго быў чырвоны твар, язык заплятаўся... Акрамя таго, трубка паказала, што ён у стане алкагольнага ап'янення. Пратакол ён падпісаў. У мяне няма ніякіх сумненняў у тым, што ён быў нецвярозы,* - сцвярджае намеснік камандзіра батальёна ДПС ДАІ УУС Гарадзенскага аблвыканкама **Валер'ян Рун.**

*- Мяне запрасілі ў службовую машыну... Там мяне абвінавацілі ў тым, што я знаходжуся ў нецвярозым стане і склалі пратакол. Калі я не пагадзіўся, то ДАІ-шнік стаў мне пагражаць, што мне адзенуць кайданкі і завязуць у Шчучын на абследаванне... Я служыў у войску, у міліцыі, таму не прызвычаіўся спрачацца з афіцэрамі і падпісаў пратакол,* - гаворыць **Уладзімір Сабук.** – *Але ў гэты самы дзень я праінфармаваў пра сітуацыю сваё кіраўніцтва і мяне абследавалі ў Лідскім псіханеўралагічным дыспансеры. Там мяне прызналі цвярозым і выдалі адпаведны дакумент.*

Такім чынам, ёсць два дакументы, выдадзеныя з розніцай у 45 хвілінаў: адзін сцвярджае, што міліцыянт быў п'яны, другі – што цвярозы.

*- Толькі тое, што трубка змяніла свой колер не можа быць доказам знаходжання чалавека ў нецвярозым стане. Для гэтага патрэбны адмысловы медыцынскі агляд, які Сабук прайшоў і таму можна ўпэўнена сказаць, што ён быў цвярозы,* - патлумачыў нарколаг Лідскага псіханеўралагічнага дыспансера **Іосіф Васілік.**

Аднак, у Лідскім аб'яднанні "Ахова" палічылі сапраўдным "ДАІ-шны пратакол". 27 снежня 2001 года Уладзімір Сабук быў звольнены за "парушэнне дысцыпліны". На працягу двух гадоў Сабук спрабаваў знайсці справядлівасць з дакументам, які падцвярджаў яго невінаватасць.

*- Я звяртаўся ва Упраўленне ўласнай бяспекі МУС. Шмат разоў хадзіў да начальства... Абяцалі разабрацца, дапамагчы,* - гаворыць Сабук.

Кропку ў гэтай справе мае паставіць суд Ленінскага раёна Гродна, куды Уладзімір Сабук звярнуўся ў пошуках праўды. Разгляд справы пачаўся на мінулым тыдні. Сабук патрабуе вяртання яго на папярэдняе месца працы, выплаты забеспячэння за час вымушанага прагула і выплаты маральных стратаў у памеры трох мільёнаў рублёў. Паводле нашай крыніцы ў праваахоўчых органах, звольненыя міліцыянты рэдка звяртаюцца ў суд. Тым больш, што шанцы на перамогу ў канфлікце з "органамі" заўжды вельмі малыя.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

Тэлефануйце 72-29-96

День змагаецца за вас

# Справа №5: "Драўляная сцяна"

**Калі пенсіянерка Ірына Салей пачала рамонт сваёй кватэры і выявіла пад штукатуркай у кухні - замест цэглаў - неачэсаныя дошкі, першая думка жанчыны была: "На такі рамонт маёй пенсіі – дакладна не хопіць". На шчасце, засмучаная чытачка ўспомніла, што ёсць рэпарцёры "Дня".**



Фота Анджэя ПІСАЛЬНІКА

*Ірына Салей: "На такі рамонт маёй пенсіі – дакладна не хопіць"*

Тое, што адкрылася вачам Ірыны Мікалаеўны ў кухні, калі не лічыць абы як набітых дошак ды дзіравага муру таўшчынёй з цэглу, - быў праход у суседнюю кватэру. Вядома ж, праектная ды тэхнічная дакументацыя шматкватэрнага дома, такія "цуды" не прадугледжвае. Таму ацаніць "знаходку" Ірыны Салей трэба, як брак будаўнікоў, якi, згодна прававым нормам ды агульначалавечым паняццям, менавіта яны і павінны выправіць.

Такой логікай кіравалася наша чытачка, калі паведаміла пра сваю праблему ў ЖЭС №1, які абслугоўвае яе дом. Аднак Ірына Мікалаеўна атрымала такі адказ на сваю скаргу, што апусціла рукі: *"...выявленное Вами несоответствие материала межквартирной перегородки является скрытым дефектом, браком, допущенным при строительстве дома* – пацвердзіў відавочнае начальнік ЖЭС №1 Алег Пруднікаў. Але зрабіў з гэтага наступную выснову: – *обслуживающая организация не несет ответственности за брак, допущенный при строительстве. Перечень работ текущего ремонта не предусматривает выполнение работ по замене материала стен, поэтому ЖЭС-1 заниматься ликвидацией брака не будет, но окажет содействие в составлении дефектного акта и сметы".*

Відаць не трэба казаць, што грашовыя магчымасці пенсіянеркі патрабавалі б складання такой сметы (пры умове, што Ірыне Мікалаеўне хапіла б грошай на набыццё цэглы), што чытачка павінна была б будаваць сцяну ўласнымі рукамі.

Зрэшты, Ірыне Салей прапанавалася і іншае выйсце – падаць у суд на арганізацыю, якая пабудавала дом. У дадзеным выпадку - на КЭЧ Гарадзенскага вайсковага гарнізона. Працэс "пенсіянерка супраць войска", выглядаў бы, напэўна, вельмі цікава... Вось толькі, хто б кампенсаваў жанчыне страчаныя ў залах судовых паседжанняў нервы?

*- Даражэнькія, падкажыце, што мне з усім гэтым рабіць?* – папрасіла Ірына Мікалаеўна, калі мы наведалі яе і пабачылі брак будаўнікоў на ўласныя вочы.

На шчасце, першы ж наш званок па гэтай справе ў ЖЭС №1 даў вынікі. Работніца жыллёва-эксплуатацыйнай службы, якая была ў курсе праблемы, па нашай просьбе пагадзілася высветліць у юрыстаў Жыллёвага рамонтна-эксплуатацыйнага прадпрыемства (ЖРЭП) Ленінскага раёна, ці з прэтэнзіямі да вайскоўцаў ад імя Ірыны Салей можа выступіць менавіта ЖРЭП. Адказ быў станоўчы!

На сённяшні дзень Ірына Мікалаеўна ўжо кансультавалася па сваёй праблеме з ЖРЭПаўскім юрыстам, які і будзе абараняць яе інтарэсы ў размовах з вайсковымі будаўнікамі. Спадзяемся, што гонар мундзіра не дазволіць гарадзенскім афіцэрам зацягваць з выпраўленнем дапушчанага іх падначаленымі брака, і нашая чытачка хутка скончыць распачаты рамонт. Мы ж будзем сачыць за развіццём падзеяў і закрыем гэтую рэпарцёрскую справу толькі пасля таго, як пабачым, што будаўнікі замест драўлянай узвялі ў кухні Ірыны Мікалаеўны - нармальную цагляную сцяну.

**Рэпарцёры ДНЯ**

## Дапаможам земляку

# Да аперацыі Аляксандра Сакеля засталося некалькі тыдняў

**Шаноўныя чытачы! Мы выршылі ўзнавіць просьбу аб дапамозе хвораму на вострык міелвобласны лейкоз гарадзенскаму хлопцу Аляксандру Сакелю ў рубрыцы "День" змагаецца за ВАС". Менавіта нашай рубрыцы сталі вядомыя некаторыя падрабязнасці гэтай праблемы.**

Галоўнае – гэта тое, што дапамагчы родным Аляксандра Сакеля сабраць неабходныя на ягоную аперацыю грошы, усе мы можам толькі да канца сакавіка. Справа ў тым, што хлопец ужо прайшоў падрыхтоўчы курс хіміятэрапіі і перанос даты аперацы на больш позні тэрмін - немагчымы. Па меркаванных лекараў, тэрміновая аперацыя – гэта апошні шанец для Аляксандра застацца жывым.

Таму, заклікаем кожнага пералічыць хаця б невялічкую суму грошай на ўратаванне маладога гарадзенца і прапануем яшчэ раз азнаёміцца з афіцыйным зваротам "Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра дзіцячай анкалогіі і гематалогіі":

Адміністрацыя ДУ "Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр дзіцячай анкалогіі і гематалогіі" просіць дапамагчы ў зборы сродкаў на алагенную няроднасную трансплантацыю касцявога мозгу Сакелю Аляксандру Уладзіміравічу, 1986 г. н., які мае дыягназ: ВМЛ" (вострык міелвобласны лейкоз), ранні рэцэдыў. Нумар гісторыі хваробы 352.

У цяперашні час правядзенне алагеннай няроднаснай трансплантацыі касцявога мозга можа даць хвораму шанец на выздараўленне. Роднаснага донара ў хворага няма. Пошук няроднаснага донара ў Еўрапейскім банку донараў, аперацыя па забору клетак касцявога мозгу і дастаўка іх у Менск каштуе прыблізна 15 тысяч еўра.

Разліковы дабрачынны рахунак 3625000000348 адкрыты ў ашчадным банку "Беларусбанк", код 795 (для лячэння Сакеля А. У.). УНП 600395123, ОКПО – 28879318.

Заранёў удзячныя за любую пералічаную суму.

**Вольга Алейнікава, дырэктар ДУ "Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр дзіцячай анкалогіі і гематалогіі"**

# 11 «А» клас школы №25

**Выпускны клас яшчэ адной школы нашага горада далучыўся да акцыі. Знаёмцеся, гэта - 11 "А" клас сярэдняй школы №25.**

**Нагадаем, што выбар найлепшага выпускнога класа Гродна залежыць ад Вашага, шаноўныя чытачы, галасавання. Па выніках розыгрыша купонаў, дасланых Вамі ў лютым, падпіску на тры месяцы (пачынаючы з гэтага нумара) атрымліваюць: Аляксей ШАЛАХОЎСКІ з Менску, Ніна РАМАЗАНАВА з Гродна і Серафім МАТЫРЫН з Ліды.**

**Віншуем пераможцаў і заклікаем далучацца да нашай забавы, мэта якой - абвяржэнне стэрэатыпнага ўспрыняцця маладога пакалення як абыякавага, ні да чаго не здольнага і пазбаўленага жыццёвых арыенціраў.**

**Калі Вы - вучань выпускнога класа і хочаце, каб мы расказалі пра Ваш клас, звяртайцеся да нас па тэлефоне: 72-29-96.**



***Першы рад знізу* (злева направа): Юры Лепеша, Яўген Рохіў, Яўген Шышко, Віталь Горбач, Уладзімір Кайко. *Другі рад*: Людміла Зянкевіч, Таццяна Шыдлоўская, Святлана Панасюк, Галіна Саўко, Святлана Пунтус, Вольга Сосна, Таццяна Кіслая, Вольга Тадаровіч, Любоў Шырокая. *Трэці рад*: Алег Тупта, Ігар Хільмановіч, Віталь Санько, Васіль Жук, Бажэна Барцэвіч, Ігар Касперчык, Аляксей Ткачук**

### Юры Лепеша

Найбольш перспектыўнай лічыць працу праграміста, таму – менавіта ў ёй бачыць сваю будучыню. Першыя прафесійныя навыкі Юры набывае ўжо зараз - ягоным галоўным захапленнем з'яўляецца кампутар. Але хлопец не забываецца і на заняткі спортам ды цікавіцца аўтамабілямі.

### Яўген Рохіў

Таксама захапляецца кампутарамі і хоча стаць матэматыкам-праграмістам. З улікам "сідзячага" характара прафесіі, вельмі добра, што вольны час Яўген прысвячае баскетболу, футболу ды армрэслінгу. Узор прафесіяналізму для хлопца - праца акцёра Віна Дызэла ў фільмах "Фарсаж" і "XXX".

### Яўген Шышко

Марыць стаць юрыстам, але ўсведамляе, што ва ўмовах пануючага прававога нігілізму, гэтая прафесія незапатрабаваная. Таму хлопец яшчэ разважае над сваім будучым працаўладкаваннем. Аднак мы верым, што Яўген, дзякуючы таварыскаму характару і фізічнай падрыхтоўцы (бокс, баскетбол, футбол), не згубіцца ў жыцці.

### Віталь Горбач

Узыходзячая зорка турыстычна-прыкладнога мнагабор'я. Ужо сёння гэты хлопец мае дасягненні, да якіх некаторыя імкнуцца праз доўгія гады спартовай кар'еры. Віталь - кандыдат у майстры спорту і чэмпіён Беларусі па турыстычна-прыкладным мнагабор'і ды спартовым арыентыраванні. На пытанне: кім ён хоча стаць, Віталь сціпла адказвае: "Настаўнікам фізычнай культуры".

### Уладзімір Кайко

Хоча стаць інжынерам-энергетыкам, таму што з развіццём цывілізацыі запатрабаванне на спецыялістаў у гэтай галіне будзе ўзрастаць. Акрамя карысных для інжынера захапленняў кампутарам ды тэхнікай, Уладзімір можа пахваліцца таксама нумізматычнымі ведамі. Найбольшым аўтарытэтам у хлопца карыстаецца ягоны тата.

### Людміла Зянкевіч

Яе цікавяць таямніцы псіхікі, таму пасля школы Людміла будзе вучыцца на псіхолага. Пакуль жа, дзяўчына назірае за паводзінамі людзей, якія ўдзельнічаюць у шматлікіх тэлевізыйных шоу, слухае музыку і гуляе са сваім сабакам. Кумір дзяўчыны – спявачка Джэніфэр Лопес "таму, што яна добра выглядае і ў яе шмат грошай".

### Таццяна Шыдлоўская

Любіць працаваць на кампутары і "сябруе" з лічбамі, таму хоча стаць бухгалтарам-эканамістам. Нягледзячы на сур'ёзнасць прафесійнага выбару, Таццяна - рамантычная дзяўчына, якая любіць марыць пад павольную музыку.

### Святлана Панасюк

Марыць стаць эканамістам, каб развіваць прадпрымальніцтва ў нашай краіне і самой, з часам, стаць бізнесвумэн. Таксама дзяўчына неабыякава ставіцца да праблемаў бязхатніх жывёлаў і заўсёды ўдзельнічае ў акцыях пратэсту на карысць "меншых братоў".

### Галіна Саўко

"Люблю лічыць (грошы)," – з гумарам тлумачыць выбар прафесіі прадаўца Галіна. Пакуль жа, у вольны час дзяўчына любіць паслухаць музыку і пашпацыраваць па вуліцах Гродна. Найбольш аўтарытэтным чалавекам для яе з'яўляецца мама, пра якую дачка кажа: "Яна вельмі добрая. З усімі жыве ў ладзе і дабрыні".

### Святлана Пунтус

Найбольш прэстыжнай і перспектыўнай лічыць прафесію праграміста. Дарэчы, мяркуючы па разнастайнасці захапленняў Святланы – валейбол, шэйпінг, музыка, тэлеперадачы, крыжаванкі і г. д. – можна сказаць, што вольны час дзяўчына праграмуе вельмі ўдала. Яшчэ Святлана хоча пераняць лепшыя якасці бацькоў: "Палову - ад таты, палову - ад мамы".

### Вольга Сосна

Улюбёны прадмет – біялогія, а будучая прафесія – эколаг. Аднак гэта – нішто ў параўнанні з марай стаць прафесійнай спявачкай. Пажадаем жа Вользе спалучыць цікавасць да экалогіі з эстраднай кар'ерай. Часам, дзеля захавання прыроды, людзі шоу-бізнесу робяць больш, чым прафесійныя эколагі.

### Таццяна Кіслая

Таксама любіць музыку ды біялогію, але хоча вучыцца на псіхолага. Прыкметай прафесійнай адпаведнасці Таццяны, на нашую думку, з'яўляецца тое, што яна шануе і паважае сваіх бацькоў. Для псіхолага, які часта дапамагае людзям зразумець адзін аднаго, добрыя адносіны з блізкімі –палова поспеху.

### Вольга Тадаровіч

Пра будучую прафесію Вольга ведае толькі тое, што яна – самая лепшая ў свеце. Паспрабуем здагадацца? "Я люблю дарыць усмешкі і да ўсіх людзей стаўлюся з павагай. Увогуле, мне падабаецца быць добрым чалавекам" - распавядае Вольга. Мы ўпэўненыя, што аб такіх кваліфікацыях марыць кожны працадаўца.

### Любоў Шырокая

"Электрычнасць будзе заўсёды, значыцца праца – таксама," – гэтая ісціна дапамагла зрабіць Любові выбар на карысць *прафесіі электрыка-эканаміста.* Захапленне эканаміста кампутарам – справа зразумелая. Але адзначым, што дзяўчына займаецца яшчэ спортам і танцамі.

### Алег Тупта

Калі да захаплення кампутарамі і кваліфікацыі інжынера-праграміста дойдзе камерцыйны талент, то Алег сапраўды можа паўтарыць кар'еру свайго куміра - Біла Гейца. Паспрыяе гэтаму тое, што хлопец займаецца спортам і ўжо фізічна падрыхтаваны да змаганняў з канкурэнтамі. Захапленне ж нумізматыкай – дапаможа адрозніць камерцыйны блеф ад "чыстай манеты".

### Ігар Хільмановіч

Таксама будучы інжынер-праграміст. І не выключана, што Ігар, як і сябар, накіруе свой талент у камерцыйнае рэчышча. А калі вы даведаецеся, што хлопец захапляецца футболам ды іншымі відамі спорта, то вас не здзівіць, што ягоны кумір - губернатар Чукоткі ды ўладальнік лонданскага «Чэлсі» - Раман Абрамовіч.

### Віталь Санько

Паклапаціцца пра спакой і бяспеку на нашых вуліцах, калі стане афіцэрам міліцыі. Заняткі Віталя спортам з'яўляюцца для яго, можна сказаць, прафесійнай неабходнасцю. Затое жаданне быць падобным на бацькоў сведчыць, што будучы міліцыянер шануе вартасці, без якіх немагчыма ўявіць сапраўднага прадстаўніка закона.

### Васіль Жук

Будучы інжынер, а "у перспектыве – начальнік па інфармацыйна-вымяральных сістэмах і тэхналогіях". Васіль напэўна стане шанаваным кіраўніком, калі заахвоціць падначаленых да сумесных спартовых гульняў, лёгкай атлетыкі, настольнага тэніса і г. д. Мяркуем, што Васілю не пашкодзіць, калі ён нешта пераймe ад свайго таты.

### Бажэна Барцэвіч

Сваё працоўнае жыццё хоча звязаць з прафесіяй цырульніка-стыліста. Дзеля гэтага, пасля школы, Бажэна будзе паступаць у Менск. Найлепшай рэкламай для стыліста з'яўляецца, як вядома, добры выгляд самога майстра. Таму заняткі танцамі і спортам толькі паспрыяюць папулярнасці Бажэны.

### Ігар Касперчык

Паважае правы, парадак, закон і будзе вучыцца на міліцыянера. Захапленне кампутарам і прыгожымі дзяўчынамі – плюсы для будучага стража парадку. Але козырам Ігара, як будучага змагара за справядлівасць, з'яўляецца тое, што ён займаецца ўсходнімі адзінаборствамі і нават носіць тытул чэмпіёна Беларусі па тэквандо.

### Аляксей Ткачук

"Вельмі кахаю Беларусь і ўстану за яе гарой," – кажа будучы вайсковец Аляксей Ткачук. Афіцэр, які зменіць не адзін гарнізон, павінен валодаць камунікатыўнымі здольнасцямі ды вызначацца таварыскасцю. Менавіта гэтыя рысы характару заўважаюць у Аляксея ягоныя сябры.

**Прапануем прыняць удзел у галасаванні на лепшы выпускны клас Гродна. *Дзеля гэтага – запоўніце купон і дашліце яго на адрас:* 230025 г. Гродна, вул. Карла Маркса, 11 (2-гі паверх).**

## КУПОН-ЛАТАРЭЯ

## Акцыя «НАША БУДУЧЫНЯ»

Мне найбольш спадабаўся клас ____ школы ______

Імя __________ Прозвішча ______________

Мой кантактны тэл. ______________________

Адрас: ___________________________________

**Штомесяц сярод атрыманых купонаў мы будзем разыгрываць тры паўгадовыя падпіскі на нашу газету. Па выніках галасавання напярэдадні выпускных вечароў будзе вызначаны найлепшы клас горада, якому «Дзень» прысвяціць галоўную тэму аднаго з чэрвеньскіх нумароў.**

**Давайце знаёміцца з нашай будучыняй РАЗАМ!**

# Завіталі "Казюкі"

**Сёння ў Гродне распачаўся традыцыйны вясновы кірмаш "Казюкі", арганізаваны Таварыствам майстроў народнае творчасці пры Саюзе палякаў Беларусі (СПБ).**

— *Кірмаш "Казюкі", прымеркаваны да дня святога Казімера – абароны моладзі і майстроў – праходзіць у Гродне ўжо трэці раз,* – паведаміў ДНЮ старшыня Таварыства майстроў народнае творчасці пры СПБ Станіслаў Мулiца. – *Асноўная ідэя "Казюкоў" – адраджэнне старадаўняй гарадзенска-віленскай традыцыі – ладжанне вясновых кірмашоў, гэта своеасаблівае прафесійнае свята народных майстроў...*

Сёлета "Казюкі" размясціліся на пляцоўцы ля кінатэатра "Гродна", а ў кірмашы прымае ўдзел каля сотні народных майстроў з розных куткоў Беларусі.

У суседняй Літве з 1992 года "Казюкас" – агульнанацыянальнае свята і непрацоўны дзень.

**Вацлаў ГАЛІМСКІ**

## Дурноты нашага жыцця

# Ма-ма-ма, марыхуана!



**Так гадкоў з дзесяць таму верашчала ў мікрафон папулярная расейская пяюха Лінда, заклікаючы сваіх фанаў не ўжываць і не чапаць гэтае свінства. Але дураслівая песенька толькі рэкламавала экзатычную траўку, бо здаўна вядома: забаронены плод - салодкі.**

І вось першага сакавіка, якраз у міжнародны дзень барацьбы з наркотыкамі, свет абляцела сенсацыйная навіна – Федэральны апеляцыйны суд ЗША дазволіў хранічна хворым жыхарам Каліфорніі "вырошчваць ды ўжываць марыхуану ў медычных мэтах". На думку амерыканскіх суддзяў, "траўка для абязбольвання" не мае нічога агульнага з незаконным абаротам наркотыкаў.

Ну так, Амерыка ў нас здаўна лічылася "гнілым Захадам". Аднак, як высветліся апасля, загніванне Захаду тут ні пры чым, бо людзі наркатызуюцца незалежна ад геаграфічнага месцазнаходжання ці сацыяльнага статусу. Прыхаваная наркаманія была ў СССР, квітнее яна і ў цяперашняй Беларусі. Толькі на Гарадзеншчыне афіцыйна зарэгістравана 1100 наркаманаў. Але лекары-нарколагі сцвярджаюць, што гэтую лічбу трэба памножыць як мінімум на 10, тады і атрымаецца найбольш рэальная лічба залежных ад наркаты. Мясцовыя аматары кайфу не ў стане рэгулярна башляць па дзесяць баксаў за "стропку"("касячок") замежнай марыхуаны, таму ў тутэйшых краях у асаблівай пашане - выцяжка з макавай саломкі.

Летась на Гарадзеншчыне назіралася не барацьба з наркатой, а сапраўдная істэрыя! Міліцыянты па загаду ўладаў з паранаідальнай зацятасцю змагаліся з пасевамі маку на "фазэндах" вясковых пенсіянераў. Прачэсвалі стражы парадку і прыватныя сектары ў Гродне. Але ў самім горадзе выйшла, як у расейскай прымаўцы: "Заставь дурака Богу молиться – он и лоб расшибет!» Бо мянты складалі пратаколы на гаспадароў, у чыіх агародах расце шматгадовы дэкаратыўны мак кшталту «кітайскай ружы» ці «крывавага сэрца», які ніхто адмыслова не сее, бо разводзіцца ён збольшага вегетатыўна. Склалі пратакол і на майго бацьку-пенсіянера, за тое, што ён, гадуючы той дэкаратыўны мак, «парушае закон». Але кур'ёз у тым, што той куст кітайскага маку пасадзіў мой (святой памяці) дзед, яшчэ 30 гадоў таму! І вось аказалася, што толькі летась адбылося «парушэнне закону». Цікава, што такі самы мак высаджвалі (пэўна, таксама «парушаючы закон»!) дзеля аздобы на клумбах мясцовых шпіталяў і гарадскіх вуліц, на могілках, дзе яго ніхто ніколі не чапаў з мэтай вырабу той «выцяжкі-дурману». Ну бо гэта не такі мак! Інакш бы наркаманы і тыя, хто зарабляе на распаўсюдзе «дури», даўно б павыдзіралі ўсе гэтыя прыгожыя расліны ў горадзе!

Але аматары кайфу - не дурні. Яны заўсёды знойдуць спосаб, каб «дагнацца» ці зрабіць выцяжку з сапраўднага маку, пакуль канавалы з сілавых структураў знішчаюць «кітайскую ружу», а адміністрацыйныя камісіі «выносяць папярэджанні» мясцовым наркабаронам - нямоглым дзядулькам і бабулькам. Вядома, у Беларусі кожная кампанія па барацьбе з сацыяльным злом пераўтвараецца ў звычайнае галавацяпства.

**Юры ГУМЯНЮК**



## Перадузяты агляд прэсы

# Жывы Васіль Быкаў

*«Разумных бараноў наогул жа нямнога,*
*А гэты – дык дурней дурнога...»*

*Кандрат КРАПІВА*

**Дапрыгаліся цуцыкі з "Дня". У мінулым нумары нарабілі столькі памылак, што я амаль не страціў прытомнасць. Асабліва не пашчасціла з лічбамі. Тое, што на 14-й старонцы пераблыталі дату нараджэння хворага хлопца – хай ім Бог выбачае. Я ж, як непавагу асабіста да мяне, успрымаю памылку ў графіку, што ілюстраваў змешчанае "пада мной" тэлефоннае апытанне гарадзенцаў. Нават мае, заплыўшыя тлушчам мазгі, змаглі палічыць, што 62% плюс 34% плюс 14% дае разам 110%!!! Проста нейкае "лукашэнкаўскае" галасаванне. Усім, як і я, абураным чытачам, дакладваю: я ўжо правёў з "днёўскімі" шчаўкапёрамі "заняткі па арыфметыцы", пасля якіх яны мелі бледны выгляд.**

А цяпер паглядзім, наколькі мае высілкі дапамагаюць пісакам з іншых гарадзенскіх выданняў.

***

Пачнем з "Гродненской правды", якую апошнім часам я чытаю з усё большай "цікавасцю". У артыкуле, які рэкламуе ўстаноўку дамафонаў, "ГП", з уласцівым дзяржаўнаму выданню "гуманізмам", ужывае такі аргумент на карысць рэкламаванай паслугі:

*"А в тех подъездах, где есть выходы на чердак или крышу, вообще творится беспредел.* ***На чердаке поселяются бомжи...****"*

Добра ведаць, што, на думку афіцыйнага друкаванага органу абласнога і гарадскога выканаўчых камітэтаў ды саветаў дэпутатаў, было б лепш, каб бяздомныя людзі замярзалі на вуліцы. Адольф Гітлер, у свой час, прыдумаў **яшчэ больш эфектыўны спосаб** барацьбы з "сацыяльнымі адкідамі" – **газавую камеру.**

***

"Биржа информации" цэлую старонку прысвяціла разважанням над праблемамі прыватных прадпрымальнікаў, якія працуюць на гарадскіх маршрутках. Матэрыял напісаны ў жанры **інтэрв'ю**, але цытаваць яго няма ані месца, ані сэнсу. "Фішкай", як кажуць маладыя, гэтай публікацыі з'яўляецца тое, што **адзіныя імя ды прозвішча**, якое можна ў ім прачытаць, гэта – **імя і прозвішча аўтара** артыкула. "Віншую" з раздвяеннем асобы.

***

Аднак самым "чарнушным" артыкулам мінулага тыдня, трэба прызнаць публікацыю "Вечернего Гродно" пра планы Гарадзенскага аб'яднання ветэранаў ушанаваць памяць Васіля Быкава. У лепшых традыцыях жахаў Стывена Кінга ды Альфрэда Хічкока заметка пад назвай "Живой Быков" заканчваецца словамі:

*"Впрочем,* ***одержимые*** *идеей, организаторы активно и настойчиво* ***проторивают тропу к живому Василю Быкову".***

Я, асабіста, ведаю толькі аднаго жывога Васіля Быкава – сына славутага пісьменніка, які жыве ў Гродна. Па прафесіі Васіль Васільевіч - дзіцячы **лекар-няўролаг,** таму тыя, **хто "прыкладваюць да яго сцежку",** павінны быць сапраўды **"апантаныя".**



Усім жадаю псіхічнага здароўя,

**Свінтус ГРАНДЫЁЗУС**

## Тэлефоннае апытанне гарадзенцаў

# Сыдзе снег – жах, што будзе!

**Тэма, запрапанаваная маладой мамай Аксанай Георгіеўнай, не пакінула абыякавым нікога з апытаных гарадзенцаў. Гэта цешыць. Засмучае тое, што паднятая праблема – настолькі відавочная, наколькі, пакуль што, і невырашальная. Але - хопіць інтрыгаваць...**

Замест жаночага свята, у першыя дні вясны, спадарыня Аксана з жахам думае пра тое, як будзе гуляць у двары свайго дома з чатырохгадовай дачкой, калі з-пад сыходзячага снега, замест глебы, выступяць, так бы мовіць – адходы жыццядзейнасці (а прасцей – "какашкі") "сямейных пацехаў" – сабакаў, якіх выгульваюць пад вокнамі "дзевяціпавярхоўкі". Па просьбе маладой мамы мы запыталіся Вас, шаноўныя гарадзенцы:

Хто, на Вашую думку, павінен прыбіраць адходы жыццядзейнасці ("какашкі") хатніх жывёлаў, якія выгульваюцца ў дварах, скверах і парках нашага горада?

### Гаспадары – 76%

*"Гэта ненармальна, калі дзеткі гуляюць у пясочніцы, у якую, прабачце, серуць сабакі!* – пачала адказ адна з жанчынаў. Яе эмацыйнасць сталася зразумелай, калі далей мы пачулі: - *Маё трохгадовае дзіця ў пазамінулым годзе пакусаў сабака, і мы дагэтуль праходзім псіхалагічную рэабілітацыю. Таму, нядбайных гаспадароў сабакаў трэба штрафаваць на вялізныя сумы грошай".* Высокі памер штрафаў – як спосаб барацьбы з людзьмі, якія не прыбіраюць за сваімі сабакамі, запрапанавалі ажно 43 апытаныя. *"Немагчыма выйсці з пад'езду!* – абурaўся, напрыклад, адзін з мужчынаў. – *Міліцыя павінна штрафаваць, калі бачыць, што нехта не прыбраў за сваім сабакам."*

Менш рашуча, але таксама не на карысць сабачнікаў, выказаўся яшчэ 21 апытаны. *"Я была нядаўна ў Англіі,* – распавяла наша суразмоўніца. – *Дык там сабакаў выгульваюць на спецыяльных пляцоўках, абсталяваных адмысловымі кантэйнерамі. Гаспадары ж сабак - ходзяць з саўкамі і пакецікамі ды збіраюць "кучкі". А калі нехта гэтага не робіць – яго штрафуюць. Нам трэба імкнуцца да такіх самых стандартаў".* Дарэчы, усе, хто спасылаўся на досвед заходніх краінаў, прапанавалі, каб гарадзенскія ўлады стварылі (за грошы ўладальнікаў сабакаў) месцы для выгулу "сяброў чалавека".

Толькі 12 нашых суразмоўцаў не змаглі запрапанаваць нічога лепшага, як спадзявацца на сумленне сабачых гаспадароў. *"Я сам маю сабаку, але выгульваць яе - заўсёды адважу далёка ў лес,* – распавёў сабачнік. – *Назіранне ж за тым, як іншыя робяць гэта пад вокнамі мяне засмучае. Зараз сыдзе снег – жах што будзе твапыцца ад сабачых фекаліяў. Можа тады ў людзей прачнецца сумленне?"*




### Камунальныя службы – 24%

*"З кожнага ўладальніка ЖЭСы павінны браць збор такога памеру, у залежнасці ад сабакі, каб грошай хапіла на аплату працы дворнікаў, якія і будуць своечасова прыбіраць за іхнымі пацехамі,"* – запрапанавала жанчына. Салідарнымі з ёй аказаліся яшчэ 13 нашых суразмоўцаў, бо, як сказаў адзін з іх: *"На сумленне сабачнікаў – няма чаго разлічваць, а пляцоўкі для выгулу з'явяцца яшчэ няхутка".*

Толькі 11 апытаных (падазраем, што большасці з іх мы "ўдзячныя" за "фекальныя разводы" на вясеннем снезе) палічыла, што на захаванне чысціні нашых двароў, сквераў і паркаў камунальным службам горада павінна хапаць тых грошай, якія збіраюць ЖЭСы ад гаспадароў дамашніх жывёлаў.

**А. ПЫТАЛЬНІК**


ДЕНЬ

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Рэгістрацыйны нумар 1587 ад 5.11.2003.
**Адрас рэдакцыі:** 220050, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, д. 16, пакой 226.
**Адрас для лістоў:** 230025 г. Гродна, вул. К.Маркса, 11
**Тэл.:** (0152) 72-29-96, (017) 206-55-08 **E-mail:** pagonia@promedia.by

Нумар газеты надрукаваны на ФДУП «Смаленскі паліграфічны камбінат», 214020, г. Смаленск, вул. Смальянінава, 1.
Наклад 5000 паасобнікаў. Замова № 8198
Аб'ём – чатыры ўмоўныя друкарскія аркушы.
Падпісаны да друку 3.02.2004 у 01:00.